**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 07 (828) 18 лютага 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



Люты не здаецца! Снегапады па ўсёй краіне!





Следчы камітэт:

## Шукаем сведкаў крадзяжу

У вытворчасці Глыбоцкага раённага аддзела Следчага камітэта знаходзіцца крымінальная справа, узбуджаная 07.01.2016 па ч.1 арт.205 КК Рэспублікі Беларусь па факце крадзяжу з аўтамабіля "Аўдзі А4" цёмна-сіняга колеру кола.

**Інфармацыя пра злачынства:**

Перыяд часу, у які здзейснена – з 19:00 гадзін 06.01.2016 па 12.00 гадзін 07.01.2016;

Месца здзяйснення злачынства – аўтамабільная стаянка злева ад дома №129 "б" па вул. Леніна ў г. Глыбокае.

Акалічнасці злачынства - крадзеж аўтамабільнага кола з "Аўдзі А4". Выкрадзена кола з адліваным дыскам у выглядзе 10 роўнашырокіх прамянёў, якія ў цэнтры закрываюцца дэкаратыўным каўпаком круглай формы. На дыску ўсталявана зімовая гума: Белшына Артмоўшн Сноў, памерам 195/65/R15. Кола прыкручвалася 5-ю нітамі, (выкрадзена без дэкаратыўнага каўпака).

Сведкаў і асобаў, якім вядомыя якія-небудзь акалічнасці здзейсненага злачынства, прашу звяртацца ў Глыбоцкі раённы аддзел Следчага камітэта па адрасе: г.Глыбокае, вул.Леніна, д.95, каб.№6, ці паведаміць па тэл.: 5-04-07.

**Ю.В.Лаўрыновіч,**
*следчы СА Глыбоцкага РАСК, капітан юстыцыі.*



ISSN 2077-8023

Полацкі раён

# Ні дня – без здарэнняў

■ Станіслаў Раманчук.

**Пасля моцных халадоў у пачатку года зноў рэзка пацяплела, аднак розных непрыемных здарэнняў у паўсядзённым жыцці ад гэтага не паменела.**

На працягу адных выхадных у адным толькі Полацкім раёне зафіксавалі 3 пажары. Спачатку ў суботу чамусьці рана-раніцай у вёсцы Дубнякі загарэлася па нявысветленай прычыне лазня. Пакуль не ўтаймавалі агонь, полымя паспела знішчыць дах, перакрыцце столі, пашкоджанымі аказаліся сцены будынка памерам 6х10 метраў. На наступны дзень пажарныя выязджалі двойчы на выклікі ўжо позна вечарам у два суседнія гарады. У адной з двухпакаёвых кватэр маладога навапалачаніна раптам загарэлася кухня, і агонь пашкодзіў маёмасць, моцна закапціў сцены і столь. Каля апоўначы загарэўся легкавы аўтамабіль 36-гадовага жыхара Полацка, прыпаркаваны каля яго дома, і ў выніку здарэння аказаліся пашкоджанымі кола і бампер. Перад гэтым на адной з вуліц гэтага старажытнага горада толькі днём п’яны вадзіцель не справіўся з кіраваннем і знёс плот прыватнага дома. Полацкія пагранічнікі на працягу сутак спынілі яшчэ нават 3 спробы кантрабанднай пераправы партый цыгарэт у Латвію адпрацаваным спосабам па чыгунцы. Яшчэ адзін жыхар Наваполацка на сваёй іншамарцы Audi патрапіў у самы сур’ёзны пераплёт у пагранічнай зоне ў Верхнядзвінскім раёне. Там падчас праверкі на падпітку ён спрабаваў уцячы ад пагранічнікаў, урэзаўся ў лесавоз, атрымаў невялікія раненні. Ён можа пазбавіцца не толькі ў чацвёрты раз правоў, але і свайго аўто за неаднаразовыя парушэнні правілаў дарожнага руху.

Пастаўскі раён

# Нялёгка прыходзіцца людзям

■ Кастусь Александровіч

**У большасці айчынных вытворцаў і працаўнікоў сёлета розных праблем яшчэ болей прыбавілася.**

Вось і ў Пастаўскім раёне ў студзені ніводнага дня не адпрацаваў завод жалезабетонных вырабаў у гарпасёлку Варапаева. Гэта прадпрыемства поўнасцю абясточана, а калі завод удасца зноў запусціць з-за адсутнасці заказаў, тут застанецца працаваць жменька людзей з сотні, якія яшчэ не звольніліся і спадзяюцца на цуда. На суседнім дрэваапрацоўчым камбінаце не хапае лесу для вытворчасці мэблі з масіву, у параўнанні са студзенем мінулага года яе выпуск зменшыўся на 674 млн. рублёў. На буйнейшым прадпрыемстве краю ПМЦ у райцэнтры падзенне выпуску дзвярэй яшчэ большае, на 4,5 млрд. рублёў з-за прасеўшых сур’ёзна рынкаў збыту ў Расіі. На Пастаўскім льнозаводзе ніяк не ўдаецца дабіцца нармальнай працы ад набытай няўдалай новай бельгійскай лініі па перапрацоўцы валакна. Толькі адзін мясцовы малочны завод адчувае сябе ўпэўнена і ў студзені нарасціў выпуск сыроў і іншай малочнай прадукцыі больш чым на 20 млрд. рублёў. Па-ранейшаму яшчэ болей праблем у гаспадарках раёна, дзе даўгі па зарплаце сталі хранічнымі. Насельніцтва бяднее імкліва на вачах, бо падае тавараабарот, больш ста прадпрымальнікаў сышлі з рынкаў. У сельскай мясцовасці практычна апусцелі дзіцячыя сады, паколькі ў бацькоў няма грошай на аплату харчавання дзетак, якое моцна падаражэла. Гэтыя працэсы ахапілі і горад, па гэтай прычыне штодзень у самы прэстыжны пастаўскі дзетсад з басейнам №1 “Крынічка” не прыходзяць па 70-80 дзяцей.

Чашніцкі раён

# Хочаш парыбачыць – заплаці

■ Чэслаў Якубовіч.

**Апошнім часам мноства азёр Беларусі набылі новых гаспадароў і арандатараў вадаёмаў, а за задавальненне адпачыць там з вудай прыходзіцца плаціць.**

Пасля ўвядзення на буйнейшым у Чашніцкім раёне возеры Лукомльскае плошчай 3642 гектары такой платнай рыбалкі рэзка вырасла незадавальненне мясцовых жыхароў. Перад будынкам гарвыканкама ў Новалукомлі сёлета ўжо адбыўся стыхійны мітынг і каля двухсот рыбакоў пратэставалі супраць таго, што за кожны выхад на лёд трэба заплаціць 50 тысяч рублёў. Праўда, у цёплых водах вадаёма дагэтуль добра расла і размнажалася рыба, асабліва карпы-таўсталобікі, і сотні людзей прыбывалі сюды парыбачыць. Аднак у былога гаспадара возера ПМК-26 меліярацыі з-за гаспадарчых праблем не было магчымасці сачыць за парадкам тут, і ён адмовіўся ад арэнды вадаёма. Абласныя ўлады перадалі возера прыватнай расійскай фірме “ТэрраФіш”, якую ўзначальвае кандыдат тэхнічных навук з Астрахані Нуржан Кульжанаў. Новыя гаспадары пачалі наводзіць на вялізным вадаёме парадак у самім рыбгасе, з’явіліся альтанкі, біятуалеты для рыбакоў, кантэйнеры для смецця, месцы для стаянак аўто і начлегу. Дарэчы, у Еўропе таксама паўсюдна такі парадак і цывілізаваны падыход. Аднак у нас за першы тыдзень новаўвядзенняў пуцёўкі на платную рыбалку купілі толькі першыя 16 рыбакоў. Іншым нічога не застаецца, як змірыцца з новымі правіламі рыбалкі, інакш станеш злосным браканьерам і заплаціш буйны штраф.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 18.02.16 | | | | Пятніца 19.02.16 | | | | Субота 20.02.16 | | | | Нядзеля 21.02.16 | | | | Пан. 22.02. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -3 | -3 | +1 | 0 | 0 | -1 | +1 | 0 | -1 | -1 | -1 | -1 | -2 | -1 | 0 | 0 | -1 | 0 | +1 |
| Ціск | 761 | 758 | 757 | 755 | 753 | 751 | 751 | 749 | 748 | 745 | 745 | 744 | 743 | 741 | 743 | 744 | 744 | 740 | 738 |
| Вецер м/сек | 4 Ю-В | 6 Ю-В | 5 Ю-В | 6 Ю-В | 5 Ю-В | 3 Ю-В | 3 Ю-В | 5 Ю-В | 5 Ю-В | 5 Ю-В | 6 Ю-В | 7 Ю-В | 4 Ю-В | 2 Ю-З | 2 З | 3 З | 4 Ю | 8 Ю | 7 Ю |
| Вільготнасць | 88 | 81 | 57 | 71 | 76 | 80 | 73 | 71 | 97 | 91 | 94 | 94 | 95 | 97 | 92 | 95 | 94 | 96 | 94 |

# Аб самым надзённым

## БЕЛАРУСЬ БУДЗЕ АДКАЗВАЦЬ СІЛАЙ, КАЛІ ЎЗНІКНУЦЬ НЕПАСРЭДНЫЯ ПАГРОЗЫ ЯЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БЯСПЕЦЫ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Зараз хоць прамых ваенных пагроз для нашай краіны не існуе, але напрыканцы студзеня прайшло пасяджэнне Савета бяспекі, на якім глава дзяржавы адобрыў у цэлым новую Ваенную дактрыну. Прэзідэнт неўзабаве ўнясе яе на разгляд дэпутатаў у Палату прадстаўнікоў.**

Апошнім часам большасць беларусаў ужо адчулі, як пачаў адчувальна зніжацца іх жыццёвы ўзровень. Пачатак гэтага года таксама пацвердзіў падобную непрыемную тэндэнцыю, а нашы ўсходнія суседзі назвалі галоўнай падзеяй студзеня рэзкі абвал расійскага рубля. На фоне зацверджанага ўрадам і Нацбанкам Беларусі новага плана па вырашэнню ў 2016 годзе задач сацыяльна-эканамічнага развіцця імкліва абясцэньвалася і наша нацыянальная валюта, але для суайчыннікаў па-ранейшаму прыярытэтным застаецца лозунг “абы не было вайны”, і людзі самі сябе супакойваюць, што неяк перажывём гэты няпросты час.

Іншая справа, што нават упраўленцы розных рангаў не ўсведамляюць, што такой глыбіні падзення ў нас яшчэ не было, і выбірацца з эканамічнай ямы Беларусі прыйдзецца доўга, магчыма, нават цэлыя дзесяцігоддзі. Мы збяднелі таму, што летась айчынная прамысловасць на трэць скараціла вытворчасць у доларавым эквіваленце і страціла амаль 20 млрд. долараў. Зараз хоць прамых ваенных пагроз для нашай краіны не існуе, але напрыканцы студзеня прайшло пасяджэнне Савета бяспекі, на якім глава дзяржавы адобрыў у цэлым новую Ваенную дактрыну. Прэзідэнт неўзабаве ўнясе яе на разгляд дэпутатаў у Палату прадстаўнікоў.

Падчас абмеркавання дакумента А. Лукашэнка заявіў, што “если останется последний рубль в бюджете или кармане государственном, то потратить его следует на безопасность нашего народа, на безопасную жизнь народа, это главное”. Дарэчы, папярэдняя і дзеючая цяпер дактрына была прынята 15 гадоў назад, і за гэты час абстаноўка вакол нас кардынальна памянялася. Раней жылі ўсе неяк спакайней і больш заможна, была ўпэўненасць у заўтрашнім дні, а галоўнае, што адносіны суседняй Расіі з Захадам былі нармальныя і нават сяброўскія пасля тэрактаў у Нью-Йорку.

Рускія з амерыканцамі сталі тады нават саюзнікамі па барацьбе з ісламскім тэрарызмам. Сёння ж наш сусед фарміруе на заходнім накірунку 4 новыя дывізіі, ваюе ў Сірыі, неспакойна па-ранейшаму ў Данбасе, а балючыя заходнія санкцыі супраць РФ закранулі краем і нас. З іншага боку, блок НАТА пачаў ствараць сілы хуткага рэагавання ў Прыбалтыцы і Польшчы, свет аказаўся зноў падзелены, і аднавілася, па-сутнасці, халодная вайна. Расійскі лідар У. Пуцін усё больш дэманструе імперскія замашкі і кажа адкрыта аб вялікай гістарычнай памылцы аддзялення ўкраінцаў і беларусаў, іншых постсавецкіх краін ад Масквы.

Невыпадкова ў новай Ваеннай дактрыне загаварылі і аб пагрозах для беларусаў так званых гібрыдных войн і што цяпер для краіны больш пагражаюць унутраныя, а не знешнія абставіны. На першы план выходзіць пагроза “каляровых рэвалюцый”, гвалтоўных дзеянняў супраць асноў дзяржавы і таксама магчымых мяцежных інфармацыйных атак, калі пачаўся сур’ёзны эканамічны крызіс. Зразумела, на такую рэакцыю паўплывалі драматычныя падзеі ў суседняй Украіне. Там моцныя справядлівыя пратэсты людзей выклікаў карупцыйны ўрад В. Януковіча, чым скарысталіся знешнія варожыя ўкраінцам сілы і анексавалі Крым, справакавалі ваенныя сутыкненні ў Данбасе.

З нечым падобным можам сутыкнуцца і мы, калі яшчэ больш пагоршыцца эканамічная сітуацыя, а падстаў для аптымізму пакуль няма. Наша краіна, сапраўды, апынулася, як было сказана, паміж “молотом и наковальней”. Яшчэ раней мінулай восенню беларускі лідар паабяцаў, што беларусы будуць абараняцца, калі хто-небудзь задумае пачаць супраць нас вайну. Не дай Бог, калі ў вайну ўцягнецца Расія, але толькі калі на яе нападуць, таксама нам, як саюзнікам, прыйдзецца выступіць у яе падтрымку. Вось чаму ў пачатку года большасць баявых брыгад і воінскіх часцей беларускай арміі прывялі ў вышэйшую ступень баявой гатоўнасці. На ваенных палігонах нашы войскі, авіяцыя і часці СПА правялі комплексную праверку сваёй баяздольнасці, і хай іх баяцца патэнцыяльныя “зялёныя чалавечкі” на беларускай зямлі.

Таксама цяпер Беларусь правільна паступае, што пачала наладжваць нармальныя адносіны з ЕС і ЗША, нягледзячы на ідучыя з усходу папрокі аб ігнараванні абавязкаў саюзнікаў Расіі. Беларусы не сталі сварыцца, пагаршаць адносіны з Украінай і Турцыяй, не сталі ўслед за Пуціным уводзіць розныя эмбарга на заходнія прадукты, выходзіць з рэжыму свабоднага гандлю з украінцамі. Безумоўна, ёсць у нас тыя фанатычныя прыхільнікі “русского мира”, каму не падабаецца такая палітыка, але хай яны супакояцца.

Дарэчы, зараз адносіны Крамля з афіцыйным Лонданам рызыкуюць зусім пагоршыцца пасля агалошвання судом ганебных фактаў удзелу расійскіх вярхоў у забойстве былога афіцэра ФСБ А. Літвіненкі і паказу па тэлеканалу BBC фільма аб таямнічых багаццях расійскага лідара. У нас жа гандаль з Англіяй расце, яна цяпер гандлёвы партнёр №2 услед за Расіяй, летась беларускі экспарт туды вырас амаль да 3 млрд. долараў. Такія ўзаемавыгадныя сувязі з рознымі партнёрамі і ёсць адным з важнейшых падмуркаў забеспячэння нацыянальнай бяспекі, дабрабыту ў рэшце рэшт Беларусі і кожнага з нас паасобку.

## Дзень за днём

**Беларусь спыніла пастаўкі бензіну з-за нізкіх цэн ў Расію. Камітэт Дзяржкантролю выявіў, што дадзеныя аб рэальнай інфляцыі ў Беларусі сфальсіфікаваныя. За год штомесячныя заробкі беларусаў зменшыліся на 207 USD. За шэраг злачынстваў узрост наступлення крымінальнай адказнасці знізілі да 14 гадоў. У лютым у Беларусі падаражэлі паштовыя паслугі. Для затыкання бюджэтных дзірак у Беларусі могуць увесці падаткі на мабільную сувязь і інтэрнет. Пасля моцных маразоў надвор'е пачало ставіць рэкорды анамальнага цяпла.**

# Важнейшыя навіны свету

**Італія.** Услед за ўладамі краіны паліцыя ЕС пацвердзіла, што летась з цэнтраў па прыёму ўцекачоў у Еўропе зніклі больш 10 тысяч дзяцей-падлеткаў нелегальных мігрантаў.

**Турцыя.** Краіна прывяла сваю авіяцыю ў павышаную баявую гатоўнасць пасля парушэння паветранай прасторы зноў рускім ваенным самалётам, НАТА туркаў падтрымала.

**ЗША.** Белы дом пагадзіўся з заявай Міністэрства фінансаў ЗША аб тым, што прэзідэнт РФ У. Пуцін – карупцыянер і старанна хавае свае велізарныя багацці, палац, яхту, рахункі.

**КНДР.** Амерыканскія спецслужбы высветлілі, што краіна правяла выпрабаванні асноўных кампанентаў вадароднай бомбы, але іх пробны выбух атрымаўся няўдалым.

**Сірыя.** Хоць 4 млн. чалавек ужо пакінулі краіну, жыхары акружаных 18 гарадоў, яшчэ 0,5 млн. могуць памерці з голаду, забіта 300 тысяч, рэжым Б. Асада трымаецца за ўладу.

**Швецыя.** Глава МУС А. Ігеман паведаміў аб высылцы з краіны да 80 тысяч імігрантаў, якія не атрымалі статус уцекача, летась шведы прынялі 163 тысячы замежных грамадзян.

**Італія.** Кампанія-падрадчык Saipem запатрабавала праз суд спагнаць з "Газпрама" 759 мільёнаў еўра за сарваны праект "Паўднёвы паток", страты рускіх за яго правал 17-20 мільярдаў долараў

**Расія.** Эксперты "Незавісимой газеты" спрагназавалі да выбараў у Дзярждуму РФ далейшае пагаршэнне эканамічнай сітуацыі і моцнае падзенне даверу да партыі ўлады.

**Польшча.** Польскі Саюз прадпрымальнікаў заклікаў урад надаць прыехаўшым у краіну беларусам і ўкраінцам від на жыхарства для захавання тэмпаў росту эканомікі.

**Расія.** З-за наўмыснага падпалу вечарам у Маскве швейнага цэха загінулі 12 чалавек мігрантаў кіргізаў, у тым ліку трое дзяцей і грудны малыш, абрушыўся і дах будынку.

**Турцыя.** На тэрыторыі краіны спыніліся перавозкі грузаў рускім аўтатранспартам, з 1 лютага рускія фуры не могуць уязджаць і на тэрыторыю Польшчы, а польскія – у Расію.

**Літва.** Адразу чатыры фракцыі Сейма прапанавалі забараніць распаўсюджванне і выкарыстанне георгіеўскай стужкі, далучылі яе да камуністычных і нацысцкіх сімвалаў.

**Славенія.** З-за густога туману на хуткаснай трасе Любляна-Копер у буйнейшым ДТЗ у гісторыі краіны сутыкнуліся 70 розных аўтамабіляў, загінулі 4 чалавекі, шмат параненых.

**Расія.** Імперская палітыка Пуціна прывяла да таго, што краіна апусцілася ў пяцёрку самых бедных дзяржаў у Еўропе разам з Украінай, Малдовай, Беларуссю і Балгарыяй.

**Англія.** Вучоныя краіны пацвердзілі, што 2016 год з-за павышэння тэмпературы вады Ціхага акеана стане самым цёплым у гісторыі метэаназіранняў, потым будзе наадварот.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Брэст.** У вобласці выявілі першых 8 чалавек, якія захварэлі так званым свіным грыпам H1N1, па ўсёй краіне было зафіксавана 38 выпадкаў, сітуацыя з грыпам не трывожная.

**Мінск.** У адрозненне ад праблемнага суседа МАЗа, завод колавых цягачоў павялічыў за год сваю выручку на 23% і атрымаў летась 297 млрд. рублёў чыстага прыбытку.

**Пінск.** Холдынг "Амкадор" завяршыў рэканструкцыю свайго філіяла ў райцэнтры па выпуску пагрузчыкаў, экскаватараў, бульдозераў і іншай спецыялізаванай тэхнікі.

**Астравец.** У Дзяржаўную інвестыцый–ную праграму на 2016 год уключылі будаўніцтва ў райцэнтры адразу трох аб'ектаў: водазабора, кацельні і дзіцячага сада на 190 месц.

**Бабруйск.** Лёс рускай авіябазы, як паведаміў доктар палітычных навук П. Усаў, хутка вырашыцца, Расія не паважае той народ, які гатовы адмовіцца ад краіны за добры паёк.

**Мінск.** Абвал у нас ідзе, як заявіў экс-глава Нацбанка С. Багданкевіч, з-за таго, што эканамічная сістэма застыла ва ўчарашнім дні мецць разам з Расіяй звышдаходы ад нафты.

**Лоеў.** Пагранічнікі затрымалі ля ракі Днепр беларуса, які пераехаў жыць ва Украіну і незаконна перасёк граніцу, калі вырашыў дома атрымаць пенсію, яго чакае буйны штраф.

**Дзятлава.** Да 2-х гадоў абмежавання волі пагражае 21-гадоваму жыхару раёна, які ў лазні не разлічыў прапорцыі вады і абліў спіну свайго сябра не халоднай вадой, а кіпенем.

**Мінск.** Пасля збіцця АМАП журналіста tut. by ў судзе студэнт Акадэміі музыкі паведаміў, што і яго грамілы ў пагонах моцна збілі толькі за тое, што размаўляў па-беларуску.

**Брэст.** У берагавых зарасніках ракі Мухавец ля Варшаўскай шашы пасля працяглых пошукаў знайшлі ўмерзлае ў лёд цела зніклай больш месяца назад 38-гадовай настаўніцы.

**Мінск.** З-за прэтэнзій пажарных выдавецтва Беларускага дома друку папярэдзіла аб высяленні з арэндуемых памяшканняў рэдакцыі газеты "Культура" і часопіса "Мастацтва".

**Астравец.** Вучань 7 класа мясцовай СШ №1 Януш Чубек пасля ўрокаў выратаваў ад гібелі малыша, які праваліўся пад лёд паблізу дамбы вадасховішча ў раённым цэнтры.

**Мінск.** Дэпутат парламента У. Шыцько прапанаваў павышаць пенсійны ўзрост у Беларусі паэтапна, спачатку для дзяржслужачых і ваенных, міліцыі, астатнім – па некалькі месяцаў.

**Слонім.** Улады раёна падтрымалі ініцыятву грамадскасці аб пачатку работ па рэканструкцыі ў горадзе знакамітага канала, пабудаванага ў 1783 годзе М. Агінскім.

**Мінск.** Выхаванка тэніснай школы МАЗа 17-гадовая Вера Лапко выйграла юніёрскі адкрыты чэмпіянат Аўтраліі, дагэтуль тут у 2005 годзе перамагала толькі Віка Азаранка.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Даўжнікам не будуць выдаваць міжнародныя пасылкі. Новаўвядзенне запрацуе ўжо ў гэтым годзе



■ Наталля Касцюкевіч / TUT.BY

**У 2016 годзе даўжнікам, якія не плацяць аліменты ці не вяртаюць грошы, перастануць выдаваць міжнародныя пасылкі. Ужо цяпер судовыя выканаўцы могуць арыштоўваць аўтамабілі і здымаць грошы з інтэрнэт-рахункаў.**

На партале Міністэрства юстыцыі ў тэставым рэжыме працуе Рэестр даўжнікоў. Каб знайсці там неплацельшчыка, трэба ведаць не толькі яго прозвішча, імя і імя па бацьку, але і ідэнтыфікацыйны нумар у пашпарце.

Сёння Рэестр у асноўным складаецца з прозвішчаў фізічных асоб. Працу па фарміраванні базы скончаць ужо ў 2016 годзе.

– Калі вы прыходзіце браць крэдыт у банк альбо проста з кімсьці дамаўляецеся аб пазыцы грошай – любыя жыццёвыя сітуацыі могуць быць – у вас могуць папрасіць дазволу паглядзець, ці з'яўляецеся вы даўжніком. Вы, з аднаго боку, можаце адмовіць у прадастаўленні свайго ідэнтыфікацыйнага нумара, але гэта ўжо падстава задумацца, што вы нешта хаваеце. З іншага боку, вы можаце прадаставіць гэты нумар, і ў вашай прысутнасці можна праверыць, паглядзець, ці ёсць выканаўчая вытворчасць, – патлумачыў міністр юстыцыі Алег Сліжэўскі.

Адказваючы на пытанне TUT.BY, міністр распавёў, што ўжо сёння можа быць накладзены арышт на аўтамабіль неплацельшчыка, могуць быць знятыя грошы з яго мабільнага рахунку. Акрамя таго, у даўжнікоў ужо можна адбіраць грошы і з рахункаў за інтэрнэт – пакуль гэтая мера працуе ў тэставым рэжыме. Як тлумачыць Міністэрства юстыцыі, тут усё залежыць ад таго, якая сума лічыцца за даўжніком. Пры буйной запазыцы могуць накласці арышт на аўто, а калі сума невялікая, заблакуюць мабільныя рахункі.

Мінюст таксама працуе над новай мерай барацьбы з даўжнікамі: спецыялісты прапануюць не выдаваць ім пасылкі, дасланыя з-за мяжы. Плануецца, што навіна запрацуе ўжо ў гэтым годзе. Як патлумачыў міністр, для гэтага неабходна заключыць пагадненне з Міністэрствам сувязі і інфарматызацыі і атрымаць доступ да яго баз.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Пасля наведвання ААТ "Нафтан" віцэ-прэм'ер урада У. Сямашка загадаў перавесці ўсе прадпрыемствы Мінэнерга Беларусі на айчынны мазут замест газу.

**Віцебск.** Прадпрыемствы ЖКГ вобласці летась скарацілі 1361 работніка, сёлета аптымізацыя штатаў галіны прадоўжыцца, будуць звольнены яшчэ 606 чалавек.

**Чашнікі.** Былы глава раёна У. Булай, арыштаваны восенню за злоўжыванні службовым становішчам, нечакана стаў дырэктарам калгаса "Кляновічы" Крупскага раёна.

**Віцебск.** Абласны эканамічны суд прызнаў банкрутам мясцовы камбінат шаўковых тканін, супраць прадпрыемства ўвялі працэдуру санацыі да 23 чэрвеня 2017 года.

**Браслаў.** Праверка Дзяржкантролю выявіла, што напрыканцы года ў снежні ў магазінах мясцовага райпо не было ў продажы яблыкаў, капусты, буракоў і морквы.

**Мёры.** Райцэнтр шакіравала, што вечарам каля прахадной аўтапарка раней судзімы п'яны 25-гадовы лайдак забіў нажом 53-гадовага вадзіцеля на падставе асабістай непрыязні.

**Орша.** Праверка пракуратуры выявіла, што ў адной з гаспадарак раёна пасля жніва застаўся на полі камбайн і знаходзіўся там, пакуль не скралі акумулятары коштам 7 мільёнаў рублёў.

**Віцебск.** Пасля рэканструкцыі на працягу 5 гадоў коштам звыш 50 млрд. рублёў зноў здалі ў эксплуатацыю лячэбны корпус №1 абласной інфекцыйнай бальніцы з 9 боксамі.

**Расоны.** Па новай тэхналогі Наваполацкі будтрэст №16 пачаў узвядзенне ў райцэнтры новага 40-кватэрнага жылога дома з уцепленых трохслойных сэндвіч-панэляў.

**Мёры.** У непрацуючага жыхара вёскі Томкі міліцыя знайшла годную для стральбы 125-гадовую вінтоўку Мосіна, яму пагражане да 2-х гадоў папраўчых работ, арышт і турма.

**Новалукомль.** Падчас пажару вечарам у шматпавярховым доме загінуў 58-гадовы мужчына, які перыядычна выпіваў, з-за моцнага задымлення эвакуіравалі яго 8 суседзяў.

**Браслаў.** Ураджэнку горада 25-гадовую А. Сарокіну не пашкадаваў Вярхоўны суд Беларусі, яна адбудзе ў турме 25 гадоў за тое, што ўтапіла ў ванне сваіх двух дзяцей.

**Віцебск.** У драматычным тэатры імя Я. Коласа павіншавалі Т. Коктыша з узнагароджаннем ордэнам Ф. Скарыны, а Г. Букаціну – з прысуджэннем звання заслужанай артысткі Беларусі.

**Глыбокае.** Ураджэнец горада А. Лук'яненка з групай Navi упершыню даў вялікі сольны канцэрт у сталічным клубе Re:Public, сёлета музыканты выпусцяць 3-ці свой альбом.

**Паставы.** Яшчэ адзін выхаванец мясцовага футбола, 21-гадовы паўабаронца А. Кучараў папоўніў асноўны склад ФК "Віцебск", куды перайшоў гуляць з "Дынама" (Мінск).

*Служба інфармацыі "ВГ" (па матэрыялах інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

■ Уладзімір Скрабатун

Глыбоцкі пантэон

# Яўхім Скурат: Мы ламалі стары свет!

**Шмат хто з нашых суайчыннікаў, якія апынуліся на выгнанні, вымушаныя былі мяняць прафесіі. Ранейшыя дыпломы і званні ў Новым свеце не дзейнічалі. Выпускнік Сарбоны Яўхім Скурат рамантаваў тэлевізары…**

Гістарычная Дзісеншчына, сённяшняя Глыбоччына, Шаркоўшчына, Докшыччына (без Бягомля), часткова Мёршчына (Дзісна) – самае сэрца Беларусі! Не сумняваюся, што знойдзецца нямала апанентаў, якія будуць гэты факт аспрэчваць. Адстойваць гэтае права за Наваградчынай, Слонімшчынай, Нясвіжчынай, Случчынай... І будуць мець пэўную рацыю! Нельга, напрыклад, спісваць з гісторыі герояў Слуцкага паўстання 1920 года за непадзельную Беларусь у сваіх этнічных межах, усталяванне рэспублікі і прызнанне Беларускай Народнай Рэспублікі, як незалежнай – ад Польшчы і Расіі – дзяржавы.

Аднак, калі дойдзе справа да складання краёвага пантэона, то добра, калі апанент назбірае на гэты пантэон 3-5 выбітныя асобы, якія ахвяравалі сябе на алтар адраджэння Беларусі, на справу яе Незалежнасці. На Дзісеншчыне ў гэты пантэон увойдуць дзясяткі і дзясяткі чалавек!!! Фенаменальна!

Газета **"Bielaruskaja Krynica"**, Nr. 44, ад 24 лістапада 1935 года, паведамляла (*захаваны стыль і правапіс арыгіналу*):

"Беларус атрымаў нагароду. Сёлета скончыў віленскі унівэрсытэт, аддзел філёлёгіі романскай і клясычнай на факультэце гуманістычным, з вынікам вельмі добрым б. сябра Беларускага Студэнскага саюзу Якім[1] Скурат. Гр. Я. Скурат атрымаў навуковы тытул магістра філёзофіі. За дыплёмовую працу „Le Romantisme de Flaubert," напісаную ў францускай мове, магістар Скурат атрымаў 16.X.35 нагароду імяні Флёры Розэнталь (бэльгійскай літараткі), у суме 2400 зл., якія празначаны на мэты далейшых студыяў нагароджанага.

Даведваемся, што гр. Скурат у наступным акадэміцкім годзе едзе ў Парыж, дзеля працы над доктаратам.

Мгр. Скурат паходзіць з беднай беларускай сялянскай сям'і з в. Палессе, Галубіцкай вол., Дзісьненскага пав. Вучыўся сам зарабляючы на жыцьцё і навуку ў гімназіі ў Вялейцы (пав.); ад 1931-32 да 1934-35 акад. году на У.С.Б.

Цяпер працуе як этатовы[1] настаўнік францускай мовы ў гімназіі а.а. Езуітаў у Вільні.

Віншуем мгра Скурата з дасюлешнімі ўдачамі ў працы і жадаем далейшых, на славу і карысьць Бацькаўшчыны!"

Знаходзім мы інфармацыю, што Яўхім Скурат у 1939 годзе скончыў аддзяленне Сарбоны. Абараніў дысертацыю – «Сімвалізм у раманах Ж. Радэнбаха» на французскай мове.

Як склаўся далейшы лёс магістра філасофіі з Палесся?

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР (1939) і ганебнай перадачы бальшавікамі беларускай Вільні і Віленскага краю Літве, літоўскі міністр асветы Жугжда катэгарычна запярэчыў існаванню беларускіх школ у Літве. На просьбу беларускай дэлегацыі (Адам Станкевіч, Адольф Клімовіч, Янка Шутовіч) аб адкрыцці беларускіх школ, Жугжда сказаў: *«Хто хоча вучыцца па-беларуску, няхай едзе на Беларусь»*. У гэтых умовах большасць вучняў звярнулася ў дырэкцыю з просьбай, каб арганізавана пераехаць у Навагрудак, дзе можна было б вучыцца ў мясцовай гімназіі. Барыс Кіт паехаў у Навагрудак, наведаў кіраўніка школьнага аддзела Баранавіцкай акругі Арцемія Саўчанку, чалавека, які загадаў аднавіць Навагрудскую беларускую гімназію ў тым самым будынку, які яе вучні калісьці будавалі. Праз тыдзень удалося перавезці вучняў з Вільні ў Навагрудак, Б. Кіт быў прызначаны дырэктарам гімназіі. Так, так! Той самы Барыс Кіт, які пазней, пад нямецкай акупацыяй, сядзеў у камеры смяротнікаў глыбоцкай турмы і цэлы месяц чакаў расстрэлу, а затым, праз дзесяцігоддзі, амерыканцы, не без яго дапамогі, "селі" на Месяц!

Колькасць вучняў гімназіі хутка перавысіла 1000, былі адкрытыя паралельныя класы. Адкрыліся таксама вячэрнія заняткі для дарослых. Б. Кіт стараўся адшукаць высокакваліфікаваных выкладчыкаў. І сярод выкладчыкаў славутай Навагрудскай беларускай гімназіі мы і сустракаем імя Яўхіма Скурата.

Неўзабаве пачынаецца Другая сусветная вайна. Аднак, Навагрудская беларуская гімназія працавала і пад нямецкай акупацыяй.

Беларускія нацыяналісты хацелі скарыстаць зручны, як ім здавалася, гістарычны момант, для аднаўлення незалежнасці Беларусі, абвешчанай яшчэ 25 сакавіка 1918 года. Нямецкая акупацыя давала, хоць і прывідны, але шанец. Аднак, калі мы будзем сёння даваць ацэнку дзеянням тагачасным беларускім дзеячам з пазіцыяў цяперашніх дзён, то гэтая ацэнка не будзе аб'ектыўнай. Трэба, усё ж, згадаць, што перад гэтым, Заходняя Беларусь – васямнаццаць гадоў знаходзілася пад польскай уладай, дзе былі не вельмі спрыяльныя ўмовы для беларускага адраджэння, а шматлікія беларускія дзеячы прайшлі праз турмы. Ва Усходняй Беларусі, у гэты ж час, большасць беларускіх пісьменнікаў і навукоўцаў былі беспадстаўна рэпрэсаваныя – расстраляныя, альбо сасланыя ў ГУЛАГ. І з прыходам савецкай улады ў Заходнюю Беларусь пасля 17 верасня 1939 года – крывавыя савецкія рэпрэсіі абрынуліся і сюды. То, не дзіва, што шматлікія беларускія дзеячы з усталяваннем нямецкай акупацыі, занялі іншы бок барыкадаў.

22 кастрычніка 1941 г. В. Кубэ падпісаў дакумент, згодна з якім засноўвалася Беларуская Народная Самапомач. Напачатку прадугледжвалася, што створаная арганізацыя будзе займацца пытаннямі сацыяльнай апекі, аховы здароўя. Самапомач павінна была замяніць таксама Беларускі Чырвоны Крыж, створаны ў ліпені таго ж году пад кіраўніцтвам лекара І. Антановіча. На месца старшыні БНС быў прызначаны лекар паводле адукацыі Іван Ермачэнка, у свой час актыўны ўдзельнік беларускага нацыянальнага руху, заснавальнік прадстаўніцтваў Беларускай Народнай Рэспублікі на Балканах. Аддзелы БНС ствараліся таксама ў акругах, паветах, валасцях. З цягам часу БНС ператваралася ў сапраўды масавую нацыянальную арганізацыю, у кампетэнцыю якой паступова ўваходзілі розныя праявы грамадскага жыцця, яна ўзяла пад свой кантроль і сістэму адукацыі. Паралельна з ведамствам В. Гадлеўскага, які непасрэдна падпарадкоўваўся аддзелу культуры пры Генеральным Камісарыяце, існаваў аддзел школьніцтва пры БНС, які ўзначаліў Яўхім Скурат.

У чэрвені 1942 г. канчаткова афармлялася структура БНС. Утварылася Цэнтральнае Бюро (Цэнтраль), якое складалася з 12 аддзелаў. Аддзел школьніцтва ізноў ачоліў Яўхім Скурат. Ёсць згадкі аб тым, што Яўхім Скурат быў і акруговым школьным інспектарам у Глыбоцкай акрузе.

Можна сказаць, што мы маем дакладны адказ на пытанне: "Чым займаўся Яўхім Скурат у гады нямецкай акупацыі?" Ён займаўся арганізацыяй беларускага школьніцтва!

Ад лета 1944г на эміграцыі. З канца 1940-х – у Канадзе.

Тады, у канцы 1940-х гг, узнікла ідэя стварыць беларускую нацыянальную арганізацыю, якая ўскалыхнула патрыятычна настроеных беларусаў эмігрантаў, асабліва моладзь. 28 траўня 1949 года адбыўся першы агульны сход беларусаў Канады. Пасля абвяшчэння арганізацыі на тым жа з'ездзе адразу 35 асобаў злажылі заявы ў ЗБК. Першыя тры гады з'езды адбываліся кожны год. У 1950-м годзе старшынём ЗБК быў абраны Аляксей Грыцук, а ў 1951 – др. Яўхім Скурат, у 1952 – Мікола Ганько. ЗБК уключала ў сябе суполкі па ўсёй Канадзе. Толькі ў Таронце было 79 сябраў ЗБК.

Дарэчы, пад нумарам першым была заява Кастуся Акулы, вядомага беларускага эміграцыйнага пісьменніка, які хрышчоны ў глыбоцкай царкве, а сам паходзіць з вёскі Верацеі, што пры дарозе Глыбокае-Крулеўшчына.

Зрэшты, усе яны былі тут простымі работнікамі, нават тыя, хто на радзіме займеў вышэйшую адукацыю, як Аляксей Грыцук, Яўхім Скурат ці Мечыслаў Рачыцкі, які, між іншым, быў кіраўніком Саюза Беларускай Моладзі ў Глыбоцкай акрузе. А некаторыя, як Лявон Карыба, мелі чатыры класы адукацыі.

Ёсць звесткі, што Яўхім Скурат скончыў і Тэхнічны інстытут электронікі.

Як адзначыла Вольга Грыцук[3]: *"Шмат хто з нашых суайчыньнікаў, якія апынуліся на выгнаньні, вымушаныя былі мяняць прафэсіі. Ранейшыя дыплёмы і званьні ў Новым свеце не дзейнічалі. Выпускнік Сарбоны Яўхім Скурат рамантаваў тэлевізары, сьвятар і магістар тэалёгіі Мікалай Лапіцкі гэтыя тэлевізары пакаваў, Наталля Арсеньева[4] складала гуркі ў банкі. Магістар гісторыі Алесь Грыцук спачатку валіў лес у канадскіх лясах, а потым, калі перабраўся ў Таронта, мыў посуд у гатэлі"*.

Яўхім Скурат быў сябрам Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва (БІНіМ), які з'яўляецца грамадскай навукова-культурнай арганізацыяй беларускай эміграцыі ў ЗША. З 1967 года філіял БІНіМ узнік і ў Канадзе (у Таронта, з 1967 г).

Памёр Яўхім Скурат у 1992-м годзе, гэта значыць, дажыў да абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

***

Да нядаўняга часу ў аўтара гэтых радкоў існавала меркаванне, што вёскі Палессе, адкуль паходзіць Яўхім Скурат, сёння не існуе. Перадусім, яе магло паглынуць Падсвілле, альбо бліжэйшая вёска Кішы. Аднак, са здзіўленнем, знаходжу яе і на сённяшняй, самай падрабязнай мапе Глыбоцкага раёна, калі ўжо не вёску, дык хутар – Палессе – паміж Падсвіллем і Кішамі.

Неверагодна, вёскі, якія ў 1930-я гг мелі па 60 двароў – да сёння не дажылі, а Палессе і цяпер існуе!

– Атрымліваецца, вёска Палессе не знікла?– пытаю ў падсвільскай паэткі Марыі Баравік.

– *Так! Засталося два жылых дамы. І людзей тых ведаю. Больш таго – да Палесся датыкнулі новую падсвільскую вуліцу, якая забудаваная прыстойнымі катэджамі, і назвалі яе – Палеская!*

Лагатып Беларускага інстытуту навукі і мастацтва.



**Яўхім Скурат (29.12.1906 — 1992).**
Здымак са збораў Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Ёрк).

> "Мы шмат працавалі ў Студэнцкім Саюзе, дыскутавалі, перастраівалі, а нават ламалі стары сьвет! У рэзультаце за намі абоімі ганялася польская паліцыя. Аднак мы ніколі ня думалі, што будучая вайна ня толькі зьмяце польскую бязпеку, але і нас выкіне на амэрыканскі кантынэнт..."
> *З допіса Яўхіма Скурата да др. Вітаўта Тумаша.*



Дэтройт
2.12.50 г.
Вельмі паважаныя сп. і сп. Савёнкі:
Вітаю Вас як сябраў Нядолі і найбліжэйшых землякоў на гэтай амэрыканскай зямлі, за нова выбранай Бацькаўшчыне.
Я, а таксама і ўся наша сям'я, вельмі задаволены што вы нарэшце выбраліся з Нямеччыны з гэтых абрыдлых лягераў ДП. Няхай Вам Бог дапамога ўладзіцца тут найлепі. Мы ўжо ў гэтым годзе жывём лепі чым у мінулым. Я працую на аўтамабільнай ф-цы і зарабляю $111.17 на тыдзень, бо працую 7 дзён у тыдзень. Жонка мая працуе тры дні ў тыдні па $5 у дзень у [illegible]
Гэля працуе ў магазыне з [illegible], атрымоўвае $30 на тыдзень. Я да гэтага часу выслаў 8 ашурансаў для Беларусаў праз польскую арганізацыю. Вось з большага наша жыцьцё. Брат мой старэйшы (вусаты) тут у Дэтройт з сваім зяцем. А брат Казімір у Монтана, ад нас нейкіх 1800 міль.
Больш пісаць няма чаго. Бывайце здаровы.
Я. Скурат

**Ліст Яўхіма Скурата да спадарства Савёнкаў. Лявон Савёнак, беларускі літаратар, паходзіў з. в. Вялец, самы блізкі зямляк Яўхіма Скурата.**

[1]. Якім, Яўхім – па тэксту імя ўказана паводзе арыгіналу дакумента.
[2]. Штатны.
[3]. Грыцук Вольга. Мы стварылі сваю Беларусь: жыцьцё і дзейнасьць Аляксея Грыцука [1910-1976].
[4]. Аўтарка словаў беларускага рэлігійнага гімна "Магутны Божа", беларуская паэтка.

# Зміцер Бартосік:
# У Беларусі не бывае нецікавых вёсак



Зміцер Бартосік, бард і журналіст.

**Ужо амаль паўтары дзясяткі гадоў сталічны журналіст Зміцер Бартосік робіць перадачы пра беларускія вёскі. Яго "Падарожжы Свабоды" вельмі адметныя, шмат хто па гэтых перадачах адкрывае для сябе невядомую Беларусь. Сам Зміцер па нацыянальнасці рускі, родам з Ніжняга Ноўгараду. Яго сям'я пераехала ў Беларусь напрыканцы сямідзясятых. Але беларускай мовай Зміцер валодае лепш за шмат каго з беларусаў. Напярэдадні Дня роднай мовы, які адзначаецца 21 лютага, мы пагутарылі са Змітром пра яго падарожжы, лёс мовы і краіны.**

## У кожнага чалавека ёсць свая гісторыя

**– Як так здарылася, што жыхар сталіцы стаў цікавіцца беларускімі вёскамі?**

– Гэта не я прыдумаў гэта ўсё, гэту доўгую вандроўку. У 2001 годзе на Радыё Свабода з'явілася перадача, якая тады называлася "Палітычная геаграфія". А ў 2002 годзе мяне папрасілі штосьці зрабіць для гэтай перадачы. Я тады з'ездзіў у Шаркоўшчыну і ў Германавічы, і мне ўсё гэта вельмі спадабалася. А акрамя гэтага, гэта спадабалася і маім начальнікам. І з тае пары хутка будзе пятнаццаць гадоў, як я езджу, і кожнага разу здзіўляюся, наколькі кожная паездка непадобная адна на адну, ніколі не ведаеш, што цябе чакае ў чарговай вёсцы як быццам бы падобную як дзве кроплі вады на вёску папярэднюю. Быццам і людзі падобныя, але ў кожнага ёсць нейкая свая гісторыя, якую ён не паспеў камусьці распавесці.

## Беларусь – вялікая краіна

**– Не прыкідваў, колькі ты ўжо праехаў па Беларусі?**

– Я не лічыў, колькі я па Беларусі праехаў. Некаторыя мне кажуць, што я праехаў усю Беларусь. А ў мяне такое адчуванне, як быццам я толькі на пачатку гэтага шляху, таму што праехаць усё гэта дакладна жыцця не хопіць. І калі я гляджу на геаграфічную мапу, то разумею, што толькі пачаў сваё падарожжа. І калі кажуць, што Беларусь – гэта маленькая рэспубліка, я цалкам не згодны. Велізарная краіна!

## Часам я спаборнічаю са смерцю

**– Як знаходзіш герояў для сваіх перадачаў?**

По-рознаму яно адбываецца. Калі нехта падкажа, бывае, падчас маіх выступаў нехта падыйдзе і скажа, што вось тут жыве цікавы чалавек, які ведае нешта такое цікавае, трэба да гэтага чалавека хутчэй ехаць. Ёсць такія мясціны, якія звязаныя з пэўнымі гістарычнымі асобамі, якія даўно ўжо памёрлі, і вось едзеш туды проста наўгад.

Вось нядаўна быў я ў Празароках. Даўно ўжо няма Ігната Буйніцкага. Але я яшчэ раз пераканаўся, што ў месцах, дзе нарадзіліся вось такія героі, нічога проста так не знікае, і не проста так яны нарадзіліся і жылі ў гэтых мясцінах.

У Беларусі не бывае нецікавых вёсак. У кожнай вёсцы ёсць свая таямніца, у кожнай вёсцы ёсць свая легенда, у кожнай вёсцы жыве нейкі абсалютна незвычайны чалавек. І калі вам раптам здаецца, што ўсе людзі тут аднолькавыя, то не трэба думаць стэрэатыпамі. Напрыклад, пенсіянеры ўсе як адзін глядзяць тэлевізар, любяць Лукашэнку і жывуць толькі сваёй пенсіяй. А калі пагаварыць з паўгадзінкі, а лепш гадзінку, там адкрыецца столькі розных цікавостак і пра тое, што яны перажылі, і пра тое, што яны памятаюць пра сваіх суседзяў… І якія-небудзь каханні, і хто што гатаваў, хто ў чым хадзіў. Тут можа быць маса розных анекдотаў, можа адкрыцца шмат цікавых гісторый, вясёлых і страшных. Таму трэба з імі размаўляць.

Шкада, што часам я не паспяваю. Шмат цікавых людзей проста адыходзіць у лепшы свет, і я часам спаборнічаю з паняй смерцю. І часам, на жаль, яна мяне апярэджвае.

І вось калі смерць апярэджвае, і я не паспяваю чалавека запісаць, пра якога мне хтосьці нешта казаў, то такая бярэ крыўда. Колькі кожны дзень сыходзіць з гэтымі людзьмі гісторый, можа нейкіх непаўторных словаў, нейкіх успамінаў!

Зараз пры сённяшняй тэхніцы, калі гэтыя дыктафоны стаяць у кожным мабільніку, каб кожны з унукаў ці сыноў узяў і запісаў свайго дзеда, прадзеда, колькі б усяго засталося! Сыходзяць вёскі, сыходзіць памяць.

## Беларушчына – з'ява несавецкая

**– А чаму нашчадкі ў сваёй большасці не цікавяцца ўспамінамі сваіх бацькоў, дзядоў?**

– Мяне вельмі раздражняе, калі я прыязджаю ў вёску, прыходжу да нейкага чалавека паважнага веку, і там сядзіць сын ці дачка, што прыехалі з горада. І яны ўжо размаўляюць пагарадскому. Яны з маці, з бацькам размаўляюць на розных мовах. І гэта ім не рэжа вуха! Мне рэжа, а ім не! Маці з дачкой, самыя родныя людзі, размаўляюць на розных мовах. І гэта нармальна! Чаму так?

У гэтым, відаць, ёсць віна як дзяцей, якія адракліся свайго, так і бацькоў, якія з радасцю агарадзілі дзяцей ад сваёй "дзеравенскасці", ад сваёй беларушчыны, а разам з тым і ад сваіх успамінаў, ад усёй сваёй несавецкасці.

Таму што беларушчына – гэта з'ява не савецкая. І ўсё, што яны маглі распавесці дзецям цікавага, магло прынесці ім нейкія праблемы, гэтым дзеткам. А дзеткі ж павінны жыць у дабры, ды пабагацей, вось і едзьце, дзеткі, у гарады, і размаўляйце правільна, па-гарадскому. А ўсё, што было, мы гэта забярэм з сабою.

## Гэта было для мяне культурным шокам

**– А як ты, па нацыянальнасці не беларус, прыйшоў да беларушчыны?**

– У кожнага чалавека, які прыходзіць да беларушчыны, свой шлях. Заўжды бывае некалькі важных падзей, нейкіх такіх штуршкоў. Напэўна самым важным для мяне быў той здзек, які наладзілі мае аднакласнікі навічку, які прыйшоў у клас і гаварыў на беларускай мове.

Гомель – не беларускамоўны горад, але гэта не значыць, што там няма беларускамоўных людзей. Яны прыязджалі з вёсак і, трэба адзначыць, Гомельшчына напрыканцы 70-х гадоў была цалкам беларускамоўная.

Для мяне гэта было культурным шокам, я не ведаў, што такая існуе ў беларускіх гарадах ініцыяцыя, што так трэба прымаць навічкоў у клас. Ён назву сваёй кватэры сказаў "шэсцьдзесят шэсць", што выклікала дзікі рогат. Настаўніца яго паправіла: "Правильно нужно говорить шестьдесят шесть, мальчик. Ну-ка, давай ещё раз повтори!" Ён зноў, ламаючы сабе язык, сказаў шэсцьдзесят шэсць. І зноў: "Га-га-га!"

А я быў вызвалены ад вывучэння беларускай мовы. А тое, чаго ты пазбаўлены, заўсёды цікава насамрэч. Некалькі ў мяне было штуршкоў да беларушчыны, але гэта быў самы галоўны. Яго можна назваць крыўда за таварыша.

І яшчэ адна рэч. Над гэтым хлопцам смяяліся ўчарашнія такія самыя як ён, учарашнія вяскоўцы, якія прыехалі ў горад год назад, два гады назад, тры гады назад, якія таксама ў свой час прайшлі праз гэты абрад.

Чаму для мяне гэта было дзіка? Я не беларус, у мяне не было дзялення на мову "гарадскую" і "дзеравенскую". Я прыехаў з таго краю, дзе руская мова і ў вёсцы, і ў горадзе. І калі я сюды прыехаў, я даведаўся, што ёсць такая мова беларуская, яна гучыць па радыё, на ёй выдаецца смешны часопіс "Вожык" і, аказваецца, некаторыя людзі, якія прыязджаюць з вёсак, ёй валодаюць. І ў мяне не было на беларушчыну нейкага сацыяльнага таўра, якое было ў маіх гомельскіх аднагодкаў. Таму мне было ў гэтым плане лягчэй.

## Не бойцеся размаўляць па-беларуску

**– А як, на твой погляд, ёсць будучыня ў беларускай мовы?**

– Адназначна ёсць будучыня! Яна не памрэ. У яе лёс будзе можа не такі феерычны, як у англійскай, але не такі сумны, як у латыні.

Ёсць такая штука, абсалютна прагматычная, як Інтэрнэт. І для Інтэрнэта, які адсочвае колькасць запытаў, колькасць тэкстаў па-беларуску, дык вось для Інтэрнэта гэта мова абсалютна жывая.

Што замінае гэтай колькасці, вельмі не малой, дарэчы, колькасці людзей, якія карыстаюцца беларускай мовай у Інтэрнэце, чытаюць, пішуць, гаварыць у грамадскіх месцах, пакідаючы свае кватэры і выходзячы на вуліцу, я не магу зразумець. Мы б не пазналі нашы гарады, калі б гэтыя ўсе карыстальнікі інтэрнэтаўскія нарэшце па-беларуску б азваліся.

Ці то нейкі комплекс у іх сядзіць? Як адзін з варыянтаў адказу на гэта пытанне – у іх сядзіць боязнь няправільнага маўлення. Яны баяцца трасянкі. Дык вось, трасянкі баяцца не трэба, яе вы не пераскочыце, таму нічога не бойцеся, і хай беларуская мова жыве дзякуючы вам.

## Не ўсё так кепска

**– А ці захаваемся мы, беларусы, як нацыя?**

– Відаць захаваемся, куды мы дзенемся. Паколькі большасць ніколі не вырашала, як гісторыя вучыць, лёс нацыі, ход гісторыі. Гэта заўжды вырашала меншасць, а меншасць у Беларусі ўжо не тая, што была гадоў трыццаць – сорак таму. Меншасць стала ўжо не паўтара працэнта, а добрых 15 – 20, а можа і ўсе трыццаць. Так што, не ўсё так кепска.



Зміцер Бартосік размаўляе з жыхаром вёскі Празарокі Феліксам Лавейкам.

*Гутарыў Зміцер Лупач*

